

*Магілеўскі*

# ВЫБАР

№ 5 (43)
Сакавік
2015 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна


# Колькі вяровачцы не віцца...

**29 студзеня 2015 года ў час правядзення прэс-канферэнцыі для журналістаў беларускіх і замежных СМІ А.Лукашэнка заявіў, што да канца свайго прэзідэнства не адмовіцца ад сацыяльна арыентаванай мадэлі ў развіцці дзяржавы. *«Та модель, которая была у нас с вами и существует до сих пор, мы от неё не отказываемся. Мы называем её социально ориентированной, то есть в центре стоит человек. Я от неё не откажусь до конца своего президентства. Мы эту модель нащупали, мы эту модель создали, мы этот путь определили и по нему надо идти, не шарахаясь, особенно в период кризиса»,* - адзначыў ён.**

Чытаючы падобныя выказванні кіраўніка краіны, міжволі ўсплываюць успаміны аб падзеях 60-х, 70-х, 80-х гадоў мінулага стагоддзя, калі разнастайныя лідары камуністычнай партыі Савецкага Саюзу такім жа чынам заяўлялі аб пабудове дзяржавы, дзе забяспечаны клопат аб кожным савецкім чалавеку. У часы Савецкага Саюзу, як і зараз у незалежнай Беларусі, таксама прымаліся самыя разнастайныя праграмы, накшталт – Харчовай, або Жыллёвай. Некаторыя кіраўнікі краіны нават заяўлялі аб хуткай пабудове "камунізму" з галоўным яго прынцыпам – "ад кожнага - па здольнасцях, кожнаму - па патрэбе", а чыноўнікі меншага маштабу ва ўвесь голас падпявалі ім. І як заяўлялі тагачасныя лідары, у цэнтры савецкай сістэмы таксама знаходзіўся чалавек.

Як паказаў час, і сапраўды, для некаторай катэгорыі грамадзян Саюзу камунізм быў усё ж такі створаны. У гэты разрад пападала высокапастаўленае партыйнае чынавенства, для якіх і было арганізавана забяспячэнне па поўных іх патрэбах. Для асноўнай жа часткі грамадзян усё гэта так і засталося на ўзроўні мараў. Канешне, сучасныя магчымасці грамадзян Беларусі ў забяспячэнні сваіх патрэбаў непараўнальна вышэйшыя за магчымасці часоў Савецкага Саюзу.

Але ж прынцып сацыяльнага размежавання грамадзян з забяспячэннем яго на карысць высокапастаўленага беларускага чынавенства за кошт бюджэтных сродкаў у нашай краіне да гэтай пары захаваўся.

Як і ў савецкія часы, беларускае чынавенства зноўку прымае на кожную пяцігодку самыя разнастайныя праграмы развіцця і рэфармавання розных галін эканомікі і сацыяльнай сферы з мэтай павышэння ўзроўню жыцця грамадзян краіны, прымае рашэнні па фінансаванні гэтых праграм і, як склалася на практыцы, па заканчэнні пяцігодак - забывае адсправаздачыцца перад гэтымі ж грамадзянамі аб іх выкананні, як і аб скарыстанні фінансавых сродкаў.

Колькі, напрыклад, прагучала заяў аб хуткім поўным пераводзе забяспячэння г.Мінска пітной вадой з падземных крыніц. Згодна Дзяржаўнай праграмы "Чыстая вада" на 2011 – 2015 гады, ў 2013 годзе Мінск павінен быў цалкам перайсці на падземныя крыніцы водазабяспячэня.

Нават тагачасны міністр ЖКГ Андрэй Шорэц, а зараз – старшыня Мінскага гарвыканкама, яшчэ ў чэрвені 2012 г. заяўляў, што пастаўленая задача – аб завяршэнні пераводу Мінска на падземныя крыніцы водазабяспячэння будзе выканана дзякуючы будаўніцтву водазабора "Вязынка", рэканструкцы іншых вадазабораў. Тым самым вырашыцца пытаннне забяспячэнне падземнай вадой жыхароў Фрунзенскага, Маскоўскага, часткова Кастрычніцкага раё-



наў сталіцы, да якіх да гэтай пары пастаўляецца вада з вадасховішча Крылова Вілейска-Мінскай воднай сістэмы.

Сёння на двары ўжо 2015 год, а аб чыстай артэзіянскай вадзе жыхарам гэтых раёнаў застаецца толькі марыць.

Працэсамі фінансавання і выкарыстання дзяржаўных сродкаў па набыццю абсталявання для станцый абязжалезвання вады водазабора "Вязынка", на іншыя водазаборы Мінска, працэсамі будаўніцтва аб'ектаў водазабора яшчэ ў 2012 г. зацікавіліся Генеральная пракуратура і Камітэт дзяржкантролю Беларусі. Але далей цікавасці справа не пайшла, відаць праца для іх аказалася "непад'ёмная". Як і праца па вызначэнню маршруту выдзяляемых фінансавых сродкаў на выкананне разнастайных праграм у сферы аказання насельніцтву жыллёва-камунальных паслуг.

Толькі канстатацыяй фактаў завяршыліся і іншыя выяўленыя справы аб беспарадках у выкарыстанні фінансавых сродкаў.

Так, напрыклад, 30 мая 2012 г. на паседжанні калегіі КДК, тагачасны старшыня А. Якабсон адзначаў у сваім выступе аб шматлікіх фактах беспарадкаў і парушэнняў пры выкарыстанні дзяржаўных сродкаў і маёмасці ў ЖКГ г.Мінска, выяўленых па выніках работы за 2010-2011 гады. У 25 правераных з 182 дзеючых на той час арганізацый ЖКГ горада, неабгрунтаваныя страты склалі 48 млрд. рублёў. Па разліках старшыні КДК, агульны памер страт толькі дзяржсродкаў па гораду склаў каля 120 млрд.руб.

І зараз як здзек над гараджанамі гучыць прапанова новага старшыні Мінскага гарвыканкама А.Шорэца да жыхароў сталіцы аб неабходнасці іх далучэння да стварэння так званай "народнай праграмы" па развіцці горада.

Не лепшым чынам адбываецца выкарыстанне чыноўнікамі народных фінансавых сродкаў і ў іншых рэгіёнах нашай краіны.

Як, напрыклад, можна разумець распараджэнне Магілёўскіх уладаў аб неабходнасці набыцця гарадскім водаканалам у 2013 годзе прагулачнага цеплахода за 420 тысяч дол. ЗША? З якімі мэтамі, менавіта, Магілеўскім водаканалам набываўся дадзены цеплаход, калі ў горадзе існуе цэлае ўпраўленне па спорту і турызму і рачны порт, дзе ўжо меліся два прагулачныя цеплаходы, эксплуатацыя якіх да гэтай пары не акуплялася з-за іх неэфектыўнага выкарыстання? І чаму менавіта за 420 тыс. долараў, калі падобнага класа цеплаходы з невялікім тэрмінам эксплуатацыі выстаўляліся на продаж у Беларусі па кошце каля 150 тыс. долараў? А зараз як затраты на набыццё гэтага цеплахода, так і страты ад яго эксплуатацыі (толькі за 2013 год – 280 млн. руб.) кладуцца на сабекошт прадукцыі і паслуг водаканала і ў сваю чаргу – на плечы гараджан у выглядзе "пацяжэўшых жыровак".

На плечы грамадзян краіны перакладваюць свае "вольнасці" чыноўнікі і іншых ведамстваў. Так у сферу мадэрнізацыі аб'ектаў "вялікай" энэргетыкі толькі за 2006 – 2010 г.г. з розных крыніц фінансавання ўкладзена больш пяці млрд. долараў ЗША. Але ж грамадзяне не пабачылі ні змяншэння коштаў на электраэнэргію, ні змяншэння коштаў іншых паслуг.

Толькі, згодна справаздач Міністэрства эканомікі РБ, мадэрнізацыя энэргетычных магутнасцяў з 2006 па 2013 гады прывяла да эканоміі больш 2,3 млрд. кубаметраў прыроднага газу. Але чаму тады пры адсутнасці новаўведзеных аб'ектаў, спажываючых прыродны газ, пры скарачэнні насельніцтва краіны, пры змяншэнні энэргаёмістасці прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў згодна статыстычных дадзеных, мы закупілі ў 2013 годзе па аб'ёму столькі ж газу як і ў 2006 годзе?

Аб фактах безгаспадарчасці на розных узроўнях сферы ЖКГ, што перакладваюцца на плечы грамадзян, ад міністэрстваў да прадпрыемстваў на месцах, як, напрыклад, у Жылкамгасе Шклоўскага райвыканкама, можна казаць яшчэ вельмі шмат.

Побач з цэлым шэрагам карупцыйных фактаў па злоўжыванню службовым становішчам з боку кіраўнікоў і супрацоўнікаў ЖКГ і Шклоўскага райвыканкаму за апошнія 10 год, выяўлены і новыя. Каля 10 год таму назад прадпрыемствам ЖКГ Шклоўскага раёна была закуплена лінія па перапрацоўцы цвёрдых бытавых адыходаў. Але за гэты тэрмін яна так і не была ўсталявана па прычыне няправільнай камплектацыі абсталявання і з часам цалкам прыйшла ў непрыгоднасць. Пры ўсіх "намаганнях" супрацоўнікаў КДК і сілавых ведамстваў Магілёўскай вобласці, вінаватых у дадзенай сітуацыі выявіць так і не ўдалося…

Дык для каго А.Лукашэнка стварыў і захоўвае, як ён кажа, сацыяльна арыентаваную мадэль у развіцці дзяржавы? І які чалавек знаходзіцца ў цэнтры гэтай мадэлі?

Сыходзячы з сітуацыі, якая склалася ў нашай краіне, у цэнтры стаіць беларускі чыноўнік. А "сацыяльна арыентаваная" мадэль у развіцці дзяржавы забяспечвае яму і ягонай сям'і жыццё па прынцыпу "ад кожнага – па здольнасцях, кожнаму – па патрэбе". І пры гэтым здольнасці яго ўвесь час звужаюцца, а патрэбы толькі пашыраюцца.

Ад "цэнтральнай фігуры" беларускай мадэлі развіцця дзяржавы цвёрда патрабуецца толькі адно – гэта забяспячэнне яскравай перамогі ў час чарговай выбарчай кампаніі. Вось на гэтае яна здольная. Таму А. Лукашэнка і не жадае адмаўляцца да канца свайго "прэзідэнства" ад створанай мадэлі .

Але ж, як кажуць у народзе, колькі б вяровачцы не віцца, а канец будзе, як і з існуючай мадэллю. І што тады будзе рабіць гэтая "цэнтральная фігура"?



*Рыгор КАСТУСЁЎ, наменсік старшыні Партыі БНФ.*



# У чаканні новых абяцанняў

Ніхто з знаёмых бялынічан зараз нават не ўзгадвае, што на адбыўшымся напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у 2010 годзе "Усебеларускім народным сходзе" кіраўнік краіны А. Лукашэнка шмат распавядаў пра шчаслівае жыццё, якое нас чакае ў хуткім будучым, і абяцаў сярэдні заробак для простага беларуса ў 2015 годзе ў памеры 1000 "праклятых буржуінскіх" зялёных грошай.

Не ведаю, што будзе абяцаць Аляксандр Рыгоравіч перад ужо даволі хуткімі чарговымі "выбарамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь", аднак ужо зараз магу адзначыць, што выкананыя гэтыя абяцанні будуць аналагічна папярэднім.

Зразумела, што самы закляты апазіцыянер даўно ведае аб тым, што на працягу наступнай кадэнцыі краінай будзе кіраваць той жа чалавек, які кіруе ёй і зараз, аднак усё-ткі хацелася б даведацца крыху больш дакладна, якое нечуванае шчасце чакае нас напярэдзе.

А вось якраз з гэтым у нашых нязменных уладаў у дадзены момант вялікія праблемы. Адзінае, што яны могуць паставіць сабе ў заслугу – гэта стабільнасць і мірнае неба над галавой шчаслівых беларусаў. Ну, за мірнае неба ім сапраўды дзякуй, слава Богу, што не ўлезлі ўслед за Расіяй у нейкую вайсковую авантуру. Праўда, яшчэ могуць, бо ў уступіўшай днямі ў дзеянне новай рэдакцыі Закона "Аб вайсковым становішчы" нашыя слаўныя парламентарыі разам з Рыгоравічам пастанавілі лічыць нападам на Рэспубліку Беларусь не толькі дзеянні, наўпрост скіраваныя супраць нашай краіны, але таксама і "акт узброенай агрэсіі з боку якой-небудзь дзяржавы альбо групы дзяржаў супраць дзяржавы-удзельніка Арганізацыі Дамовы аб калектыўнай бяспецы (АДКБ)".

Каб было больш зразумела, шаноўныя чытачы, растлумачу больш папулярна: згодна новай рэдакцыі закона, калі на нашых сярэднеазіяцкіх сяброў ажыццявяць напад афганскія талібы (а гэта вельмі верагодна пасля вываду войскаў заходніх дзяржаў з тэрыторыі Афганістана, так лічаць практычна ўсе аналітыкі), то беларускія хлопцы на законных падставах могуць быць туды адпраўлены дапамагаць разбірацца, які накірунак іслама больш дакладны. Аналагічна – калі зноў рэзка абвастрыцца канфлікт паміж Азербайджанам і Арменіяй, ці ваенныя дзеянні перакінуцца з Украіны на тэрыторыю Расіі.




Яно нам трэба? Такое ўражанне, што нашы ўладныя чыноўнікі па трупах у цынкавых трунах засумавалі. Але чаму тут здзіўляцца - не іх дзеткі і ўнукі, калі што, туды паедуць, яны тут застануцца, як гэта было заўсёды на працягу ўсёй нашай гісторыі. Армія ў нас заўсёды была "рабоча-сялянская". Праўда, ёсць яшчэ спадзяванне, што ўлады "уключаць мазгі" і адменяць сваё "мудрае" новаўвядзенне, - апошні сойм Партыі БНФ накіраваў адпаведны зварот на гэты конт ва ўсе ўладныя інстанцыі.

Што ж датычыцца стабільнасці, то тут мне крыху смешна становіцца – усе апошнія гады ў нас стабільна раслі толькі кошты, даўгі іншым краінам, курсы замежных валют і інфляцыя. Пра нейкі рост эканомікі ґаварыць не выпадае, рэальныя (а не падлічаныя слаўнымі беларускімі статыстыкамі) заробкі і пенсіі ў эквіваленце "праклятых буржуінскіх грошай" значна зменшыліся, як і пакупніцкая здольнасць простых людзей. Калі заходзіце ў крамы, паважаныя чытачы, самі бачыце, наколькі выраслі кошты літаральна на ўсё ў бялыніцкіх магазінах. Пакуль яшчэ крыху трымаюцца цэны толькі на мясныя вырабы, але гэта толькі пакуль і таму, што Расія не хоча наша мяса купляць, мясакамбінаты ім завалены.

Зараз нашы мудрыя чыноўнікі распавядаюць пра тое, колькі яшчэ грошай "квітнеючая Беларусь" бліжэйшым часам возьме ў крэдыт у "праклятых буржуінаў", а таксама аб тым, як шмат "зайцаў" у бюджэт прынясуць "лайдакі і дармаеды". Пра лайдакоў я прамаўчу, бо ўсім адэкватным людзям зразумела, што з сапраўдных асацыяльных асоб ніякіх грошай ніколі не возьмеш, бо іх у іх няма. Што ж датычыцца пазык, нашы кіраўнікі чамусьці не кажуць пра тое, што ўсе апошнія гады мы і так жылі фактычна ў доўг, нахапалі процьму крэдытаў, а зараз прыйшоў час іх аддаваць. Таму патрэбна зацягваць паясы, каб іх выплаціць, і ніякага рэальнага росту заробкаў і пенсій у бліжэйшы час проста не будзе. Ну, але ж нашым чыноўнікам усе гэта пофіг, працягваем выпрошваць новыя пазыкі. Толькі чым разлічвацца будзем і хто іх нам дасць, нашы чыноўнікі і кіраўнік краіны чамусьці не кажуць. Зразумела, што пад выбары ў Расіі некалькі мільярдаў выкленчым, але што будзе з нашай эканомікай пасля выбараў?..

***Іван БАРЫСАЎ.***

# О чём умолчала О.Глухова?

«…как бы хорошо человек ни говорил, помните: когда он говорит слишком много, то, в конце концов, скажет глупость».
*А. Дюма-отец*

## ПОДЧИЩАЮТ

6 февраля этого года БелТА со ссылкой на Министерство финансов распространило информацию под названием «Беларусь существенно улучшила показатели экономической безопасности по государственному долгу»: ***«Платежи по погашению и обслуживанию внешнего государственного долга без учёта погашения внешних краткосрочных займов составили 7,1% к валовой выручке (7,7% на 1.10. 2014 года). При пороговом значении 10%. Что касается платежей по обслуживанию внешнего и внутреннего государственного долга, то они на 1.01.2015 года составляют 5,5% к доходам республиканского бюджета (пороговое значение 10%). На 1.10. 2014 года этот показатель был равен 6,7%. Показатели по внутреннему государственному долгу, который на 1.01. 2015 года составил 48,8 трлн. рублей, также в зоне экономической безопасности. Внутренний государственный долг находится на уровне 5,7% к ВВП при пороговом значении 20%».***

Наверняка большинство наших читателей вряд ли обратили внимание на подобное сообщение, но сразу же заметим, что реальная цена его может равняться сотням миллионов долларов. Чтобы это понять, вернёмся к семичасовой пресс-конференции А.Лукашенко для журналистов, которую он провёл 29 января в Минске и которую так красочно расписала в своей статье под названием «Открытый диалог» в газете «Вестник Чериковщины» от 31 января главный редактор О.Глухова.



## О ЧЁМ УМОЛЧАЛА О. ГЛУХОВА?

Во время общения с журналистами А.Лукашенко, отвечая на вопрос корреспондента газеты «Белорусы и рынок», обвинил население Беларуси в ажиотажном спросе на валюту, что, по его мнению, стало психологическим фактором девальвации. Он напомнил, что в 2015 году государству нужно погасить внешний долг в размере 4 млрд. долларов. При этом, сравнив размер выплат в 2016 году, а это 1,7 млрд. долларов, заявил: «Если будет трудно, мы будем вести диалог о реструктуризации долга этого года». Проводя подобные мероприятия, рассчитанные, прежде всего, на внутреннюю аудиторию, А.Г. не очень-то подбирал слова и выражения, уверенный, что это, как всегда, лично ему ничем не угрожает. Например, в 2010 году он пообещал народу, что к 2015 году средняя заработная плата достигнет 1000 долларов, если его изберут президентом. Избрали, не выполнил - ну и что? Всё равно сказал, что президентом буду! Местная, так сказать, публика привыкла к тому, что белорусские чиновники легко путают слова, понятия, цифры, а потом пытаются оправдаться тем, что журналисты их не так поняли или вырвали что-то из контекста. Поэтому внутри белорусского медиапространства, произнесённое А.Г. слово «реструктуризация» (изменение порядка выплаты долга) большинством было воспринято как очередная оговорка. Но то, что без последствий проходит в Беларуси, совсем по-иному расценивается в цивилизованном мире. Появившаяся в иностранных информационных источниках фраза А.Г. произвела много шума в деловых кругах и дала повод для того, что котировки белорусских евробондов полетели вниз, теряя по 10-20%. Через пару часов после сказанного А.Г., когда ещё продолжалась пресс-конференция, Министерство финансов РБ выпустило пресс-релиз с опровержением сказанного президентом. *«Республика Беларусь располагает необходимым объёмом ресурсов и набором финансовых инструментов для безусловного выполнения своих долговых обязательств в 2015 году. Вопрос реструктуризации долга не рассматривается. Правительством совместно с Национальным банком ведётся работа по привлечению средств для рефинансирования части долго-*

*вых обязательств как за счёт размещения государственных облигаций на внешних и внутренних рынках, так и межгосударственных займов»,* - говорилось в сообщении Минфина. В это же самое время А.Г., видимо, сообщили в президиум о случившемся на внешних рынках с белорусскими ценными бумагами.

### «РЕСТРУКТУРИЗАЦИЯ» ПРЕВРАТИЛАСЬ В «РЕФИНАНСИРОВАНИЕ»

И он стал оправдываться, заявив: «Если нам не удастся осуществить рефинансирование, то мы 4 млрд. долларов США выплатим. Эти деньги в бюджете есть. Поэтому метаться с нашими облигациями, продавать их по дешёвке абсолютно не надо. Мы не находимся в преддефолтном состоянии, чтобы не платить по долгам», - оправдывался А.Лукашенко и успокаивал инвесторов. Для подтверждения своих слов он попросил прокомментировать ситуацию главу Нацбанка П.Каллаура. «Рефинансирование, или заимствование на внутренних и внешних рынках - это обычная практика. Если цена заимствования на внешних рынках будет нас устраивать, то мы этим инструментом будем пользоваться», - поддержал П.Каллаур А.Г. и продолжил: «Обеспечиваться это будет за счёт сбалансированной макроэкономической политики, в первую очередь за счёт диверсификации экспорта. Есть и другая сторона вопроса, которая интересна держателям наших ценных бумаг. В текущем году будет проводиться макроэкономическая политика в части, направленная на оптимизацию спроса. Все эти условия позволят обеспечить выплату обязательств».

### А ЧТО С РЕФИНАНСИРОВАНИЕМ?

Мы уже неоднократно рассказывали нашим читателям, что ситуация с выплатой внешнего долга для Беларуси в 2015 году очень серьёзная. Надо выплатить 4 млрд. долларов, которые очень не просто будет найти. Дело в том, что в бюджете на 2015 год предусмотрены не деньги на погашение евробондов, а именно их рефинансирование. Это означает, что для того, чтобы погасить 1 млрд. долларов долга, надо залезть в новые долги на сумму в 1 млрд. долларов. И если рефинансировать таким образом долг за счёт выпуска новых евробондов не удастся, то это придётся делать за счёт каких-то других займов. Собственных источников в бюджете 2015 года просто нет. Поэтому уже сейчас надо начинать вести переговоры с держателями облигаций. И колебания котировок белорусских евробондов, вызванные непродуманными словами А.Г., могут негативно сказаться на той стоимости, по которой мы сможем разместить новые евробонды. С учётом нынешней экономической ситуации в Беларуси, которую, безусловно, отслеживают потенциальные инвесторы, можно практически со 100% уверенностью говорить, что цена размещения, то есть, доход, который Беларусь возьмётся обеспечивать инвесторам, может оказаться очень высокой. По оценке независимых экспертов – более 10% годовых. Для сравнения: последний такой заём для Беларуси стоил порядка 7 - 7,5%.

В свете вышесказанного сегодня следует расценивать и поездку А. Лукашенко в Сочи на встречу с В. Путиным, и последние встречи в Европе министра иностранных дел В. Макея. Режим судорожно ищет деньги.

***Вадим ВЛАДОВ.***

# У Шклове - новая карупцыйная справа

Следчыя органы Магілёўскай вобласці распачалі новае следства. Крымінальная справа ўзбуджана ў адносінах да былой кіруючай справамі Шклоўскага райвыканкама Людмілы Глякавай, паведамляе незалежная маланакладная газета “Шклоў-інфо” (№4 за люты 2015 г.). Былой райвыканкамаўскай чыноўніцы прад’яўлена абвінавачванне ў крадзяжы шляхам злоўжывання ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі. Л.Глякавава падазраецца ў крадзяжы 29 мільёнаў рублёў.

Зараз былая чыноўніца знаходзіцца пад вартай, яна часткова прызнала сваю віну. Згодна неафіцыйнай інфармацыі, Людміла Глякава супрацоўнічае са следствам і імкнецца, каб абвінавачванне ў крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі было перакваліфікавана ў абвінавачванне ў махлярстве.

Неабходна адзначыць, што падчас сваёй працы на пасадзе кіруючай справамі Шклоўскага райвыканкама Л.Глякава неаднаразова ўзначальвала тэрытарыяльныя і акруговыя камісіі падчас выбараў дэпутатаў розных узроўняў і на прэзідэнцкіх выбарах. Мясцовыя грамадскія актывісты добра памятаюць своеасаблівае стаўленне Людмілы Анатольеўны да дэмакратычных кандыдатаў…

Нагадаем, што напрыканцы мінулага года да 14 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці за аферу з закупкай племянной жывёлы для патрэб гаспадарак раёна быў асуджаны былы першы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама Дзмітрый Мінянкоў. Таксама ў мінулым годзе следчымі органамі была ўзбуджана крымінальная справа за злоўжыванне ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі ў адносінах да намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама па будаўніцтву і камунальнай гаспадарцы Яўгена Сямянкевіча.

***Барыс ВЫРВІЧ.***

# Былы фермер: "Улада баіцца прыватніка, як чорт ладану"

Сельская гаспадарка ў Беларусі за 20 гадоў незалежнасці застаецца стратнай галіной прамысловасці, як гэта было ў савецкі час.

Перавага аддаецца ўсё тым жа калгасам.

У той час, да фермерскіх гаспадарак адносіны з боку ўлады больш жорсткія, кажа былы фермер, уладальнік вялікай падсобнай гаспадаркі Аляксандр Бяльчук:

- Бухгалтара трымай, дакументы ўсе складай і на 25 гектарах зямлі. Дайце пустое памяшканне фермы - васемнаццаць памяшканняў у нас у вёсцы стаяць. На прыёме старшыня Дзяржкаммаёмасці Кузняцоў даў каманду: "Дайце вы яму, няхай працуе». Раённыя ўлады - няма і ўсё - разбяром, закапаем, але не дадзім.

Па словах фермера, цяперашняй уладзе не патрэбныя прыватнікі, і яны нават небяспечныя для яе:

- Улада баіцца прыватніка, як чорт ладану. Чым будзеш кіраваць, калі ўсе будуць прыватнікамі? А так прадыктаваў цэны на малако 3600, а манапаліст зарабляе грошы - 15 тысяч, 12 тысяч абястлушчанае малако прадае. Сказаў за карову, за кілаграм - 17 тысяч, будзь добры здавай на мясакамбінат, а каўбаса па 170.



Зараз Аляксандр Бяльчук, маючы 57 гектараў зямлі, і 40 галоў буйной рагатай жывёлы, падпадае пад закон аб так званых «дармаедах». Таму што праца ў падсобнай гаспадарцы не залічваецца ў працоўны стаж.

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*

Паводле charter97

# Локальные проекты: необходимость и реальность

Кампания «Говори Правду!» вот уже второй год занимается разработкой и реализацией локальных проектов в регионах. Не секрет, что власть сегодня бездействует и совсем забыла, что её предназначение - всеобъемлющая забота и внимание в решении всех, даже самых малых запросов населения нашей страны. Но так уже повелось, что без указаний сверху, нижестоящие чиновники не тронутся с места и не могут принять нужного положительного решения. Получается, что людям и обратиться некуда. Но кто-то же должен заполнить этот вакуум. Часть этой работы взяли на себя депутаты Гражданского договора «Говори Правду». С начала этой кампании в эту деятельность включился и Хотимский офис. И она получила хорошее начало.

Один проект получил логическое завершение - это была реконструкция памятника воинам-освободителям г.п.Хотимска от немецко-фашистских захватчиков. Более 12 лет памятник солдатам-освободителям стоял с автоматом без ствола. Вандалы отломали его, а представители власти в праздничные дни в образовавшееся отверстие вставляла деревянную палку, которую по окончании торжественной части убирали. Ко мне много раз обращались ветераны, гости нашего посёлка, которые с недоумением констатировали данный факт. Поэтому мы взялись за эту работу. Долгая переписка с властями, публичные выступления в прессе, наконец предложение своих услуг по реставрации произвели положительный результат. Власть дрогнула и нашла возможным довести дело реконструкции памятника и благоустройства сквера до соответствующего состояния. Мы, волонтёры кампании «Говори Правду», назвали эту акцию «Малая Победа - Большая Победа».

Сейчас на стадии завершения второй локальный проект. В газете «Свободные новости-плюс» была опубликована моя статья «Ну а кладочка–мосток лежит с Запада на Восток». Там излагалась суть проблемы и предлагались варианты её решения. В ней указывались фамилии должностных лиц, побывавших на объекте и ничего не предпринявших для решения проблемы. Но публичность прессы возымела воздействие. Лёд тронулся. Первая часть проекта завершена. Осталась её вторая часть. И она будет нами выполнена в августе месяце. Но суть этих малых побед не в том , чтобы показать свою значимость, а в том, что мы идём к людям, разговариваем с ними, узнаём о чём они думают, о чём мечтают и что бы хотели видеть в своих детях. Это очень важный аспект понимания нашей работы среди людей. Властям нет времени, а у нас оно есть. Хотя нет более важной работы, чем помогать людям.

В работе ещё два локальных проекта, которые мы должны завершить в этом году. Это - «Вышки-убийцы» и «Сделаем дорогу вместе».

Власти не пускают нас в депутаты, всячески хотят дискредитировать, но рано или поздно придёт время и люди честно и законно выберут нас во власть. Поэтому, несмотря на жесточайшее противодействие нашей работе, мы обязательны и последовательны в своей деятельности для блага каждого человека.

*Валерий КОРОНКЕВИЧ.*

# Об инвалидах замолвите слово!

Гуманность общества измеряется отношением к старикам, детям и инвалидам. И если к старикам и детям в Круглянском районе отношение терпимое, то инвалиды почему-то брошены на произвол судьбы.

Мне хочется рассказать о судьбе одной женщины. Она инвалид с детства по опорно-двигательному аппарату. Маленькая, с некрасивым большим лицом. Казалось, что судьба её обидела во всём. Но она вышла замуж, родила сына, потеряв из-за халатности врачей перед этим дочь, о которой сожалеет до сих пор. Возможно, выживи дочурка – и радости от жизни было бы больше...

Несмотря на свою инвалидность, она очень трудолюбива. Целый день она вяжет вещи и себе, и на заказ. Маленькими больными руками она пытается заработать хоть какую-то не лишнюю в хозяйстве копейку. Рано овдовела, одна вырастила сына.

Что её отличает от многих людей? Доброта. Смирение великое, которое не у многих можно наблюдать. Ради чего она живёт? Ради сына, такого же невезучего и обиженного жизнью, как и она. Я знаю её больше четверти века. И после каждой встречи очень долго не могу найти успокоения в душе. Меня мучает один вопрос – за что?

Когда-то ей выделили квартиру в кирпичном пятиэтажном доме на пятом этаже без лифта. Я подчеркну: НА ПЯТОМ! И это человеку с искалеченными больными ногами, при её росте примерно 1м 25 см. И вот лет тридцать она ходила на пятый этаж, с трудом спускаясь и поднимаясь. Последние десять лет она безвылазно сидит дома, так как уже не в состоянии ни спуститься, ни подняться. Кому в голову пришла такая «шутка» над больным человеком?



... Я сижу в квартирке Наташи Бутузовой - чистенькой, скромной. Забегает соседка, что помогает этой женщине выжить - свет не без добрых людей! - что-то приносит из еды. Ведь за ней больше некому ухаживать. Сыну почему-то отказано, по её словам, в уходе за больной матерью, получая за это зарплату, хотя, как я знаю, это предусмотрено законодательством. И гражданскому мужу Наташи не нашлось работы в районе. Уехал в Россию. А как нужен бы был рядом!..

Но Наташа сетует даже не за себя, а за всех круглянских инвалидов. В этом году даже не поздравили с днём инвалидов. Не спросили, в чём они имеют нужду. Как говорит Наташа, хоть бы картошки выделили и завезли килограмм 200. Всё бы было легче выжить. Ведь на пенсию сильно не разгуляешься. А таких инвалидов, вздыхает моя собеседница, только в нашем доме восемь человек.

Когда-то в Круглом славилось своей работой общество инвалидов. Было у них своё здание на центральной улице, складское помещение на въезде в посёлок. Но, не заплатив ни копейки за снос, всё это снесли, а общество инвалидов ликвидировали, потому что трудно назвать то, что осталась, общественной организацией. Нет её – и нет проблем. И для руководства проще потратить деньги на очередной семинар по передаче передового опыта (вот в этом мы впереди всех в области при отсутствии промышленности вообще), чем доставить хоть какую-то радость людям, обиженным судьбой.

Никто из нас не застрахован от несчастного случая или от болезни. Все мы ходим под Богом. И почему-то мне так стыдно и за власть, и за тех, кто в своё время выделил квартиру Наташе «в поднебесье». Так и хочется закричать от этой боли: люди! Будьте милосерднее!

*Зинаида МИЛЕЩЕНКО.*

# Адусюль пакрыху

**На 1 сакавіка 2015 г у 510 арганізацыях Беларусі мелася пратэрмінаваная запазычанасць па заработнай плаце перад 87,3 тыс. работнікамі, на суму 300,6 млрд. руб. У Магілёўскай вобласці запазычанасць па зарплаце мелася ў 15 прадпрыемствах.**

**У 2014 годзе аб'ём выкідаў забруджвальных рэчываў у атмасфернае паветра ад стацыянарных крыніц у Магілёўскай вобласці склаў 50,1 тыс. тон і павялічыўся ў параўнанні з 2013 годам на 3,8%. Найбольшая ўдзельная вага выкідаў у агульным аб'ёме выкідаў па вобласці прыпадае на арганізацыі Магілёва (11,2%), Бабруйска (10,6%), Крычаўскага (15,2%), Касцюковіцкага (12,6%) і Асіповіцкага (10, 2%) раёнаў.**

**У мінулым годзе па выніках зваротаў у арганізацыю па абароне правоў спажыўцоў, жыхарам Магілёва было вернута больш за 145 млн. рублёў за няякасныя тавары. У тым ліку каля 90 млн. за складаную бытавую тэхніку.**

**З 19 сакавіка па 18 красавіка ў Магілёве пройдзе месячнік па навядзенні парадку. У рамках месячніка комплекс мер па добраўпарадкаванні тэрыторыі горада будзе выкананы камунальнымі службамі, а таксама прадпрыемствамі і арганізацыямі, якія ажыццяўляюць гаспадарчую дзейнасць. Да працы па навядзенні парадку будуць прыцягнуты працоўныя калектывы, навучэнцы старэйшых класаў і студэнты навучальных устаноў абласнога цэнтра. На 4 красавіка ў Магілеве запланаваны першы агульнагарадскі суботнік.**

**Стан гісторыка - культурных каштоўнасцяў Магілёва ацэніць спецыяльная гарадская камісія. Плануецца да канца сакавіка абследаваць у агульнай складанасці больш за 150 гістарычных аб'ектаў. Гэта пабудовы, узведзеныя да 1917 г. - былыя гасцініцы, крамы і жылыя дамы часоў губернскага Магілёва. Камісія вызначыць, ці паўплывала на іх стан прадпрымальніцкая дзейнасць арандатараў і ўласнікаў.**

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*

# О ней мечтали многие…

Крупнейший в мире производитель швейных машинок, корпорация «Singer», недавно отметила 160-летие. Вряд ли в середине позапрошлого века немолодой и бедный американский еврей Исаак Меррит Зингер мог предположить, что через полтора века его имя будет известно во всем мире. Неудавшийся актер, безвестный инженер, изобретатель оставшихся невостребованными машин для сверления камня и распилки дерева, - вот, собственно, и всё, чем он мог похвастаться.

Идея изобрести швейную машинку не отличалась оригинальностью. Первый такой патент был подписан в Англии ещё в 1790 г., затем в Австрии – в 1819-м, в США – в 1826-м, во Франции – в 1830-м. В 1846 г. патент на самую совершенную машинку был зарегистрирован на имя некого Элиаса Хоу. К тому времени сам Зингер успел попробовать себя во многих ипостасях. Рождённый в 1811 г. в Питтстауне на севере штата Нью-Йорк в семье выходцев из Германии, он в 12-летнем возрасте покинул отчий дом и отправился по Америке в поисках счастья. Сменил несколько профессий, от каменотеса до ученика механика, нигде не засиживаясь подолгу. Карьера театрального актера приносила аплодисменты провинциалок, но не деньги. В итоге, будущему миллионеру пришлось найти постоянную работу в мастерской по ремонту швейных машин Элиаса Хоу. Они то и дело ломались. В сердцах Зингер как-то бросил хозяину, что сам может сконструировать нечто лучшее по сравнению с продукцией Хоу.

Он взял у приятеля взаймы 40 долларов – крупную сумму по тем временам, - и работа закипела. О работоспособности изобретателя, перенявшего талант к механике от отца, красноречиво говорит срок, который ему понадобился на создание новой машинки – 11 дней. Машинка Зингера, в отличие от других, существующих на тот момент, была снабжена лапкой, прижимавшей ткань к рабочей поверхности, и ножным приводом. Новшество освобождало руки швей и позволяло делать неограниченный по длине шов. 12 августа 1851 г. он запатентовал своё изобретение.

Изготовленная по его чертежам швейная машинка стоила дорого – 100 долларов. Позволить такую роскошь могла зажиточная семья. Изобретателю пришлось искать партнёра. И нашел в лице состоятельного адвоката Уильяма Кларка. Зингер понял, что лишь с помощью деловой смекалки и связей Кларка он сможет войти в мир большого бизнеса. Кларк впервые в США внедрил схему оплаты в рассрочку, что резко повысило привлекательность швейных машин в глазах покупателей.

Сам Зингер, между тем, продолжал усовершенствовать своё изобретение. Число патентов возросло до 22. Одновременно в изготовление швейных машин он внедрил те же процессы обработки деталей, которые существовали тогда в самом «продвинутом» секторе производства – оружейном. Уже в конце 1858 г. на Зингера работали четыре завода в штате Нью-Йорк, количество проданных машин достигало 3000 в год.

В 1863 г. Зингер и Кларк учредили «Зингер мэньюфэкчуринг компани» - правообладатель бесчисленных патентов, нескольких фабрик и капитала в 550 тысяч долларов. Открытие в 1867 г. фабрики в Глазго стало первым шагом на пути глобальной экспансии швейных машинок этой марки.

Вскоре Зингер перебрался в Англию, купил поместье в Торкузе, с домом в 115 комнат и конюшней на 50 лошадей, и жил там припеваючи. Там он и умер в 1875 г., не дожив до 64-го дня рождения.

Сегодня прибыль корпорации «Зингер», остающейся лидером производства швейных машин в мире, исчисляется миллиардами долларов. Ей принадлежат 620 магазинов, торгующих, помимо традиционного для неё товара, телевизорами, холодильниками и другой бытовой техникой. Товары с маркой «Зингер» распространяют более 12 тысяч дилеров в 150 странах.

Одним из самых больших филиалов этой транснациональной компании до начало 1-й мировой войны являлся Подольский филиал в России. После революции предприятие национализировали и продолжали выпускать те же машинки, но под названием «Госшвеймашина» и «ПМЗ». После 2-й мировой войны «Singer» на территории СССР в чистом виде не выпускался. Однако похожие машины, скопированные с довоенной разработки фирмы «Singer» производили в белорусском городе Орша, которые так и назывались «Орша». Приобрести такую машинку в дом мечтали многие белорусские «гаспадыні».

***Александр ГРУДИНО.***

Магілёўскі ВЫБАР

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 213155, Магілёўская вобласць, Магілёўскі раён, в.Брылі, вул.Юбілейная, 6-7. Тэл. 8-0222-710451
E-mail: mikolabryl@gmail.com. Выдавец Яцкова Ала Міхайлаўна. Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 4.03.2015 г. у 10.00.